# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“

Цана 30 н. фэн., для заграніцы — 50 н. ф.

№ 8(52). 25 САКАВІКА 1949 Г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 3

# 1918 - 25 САКАВІКА - 1949

## ЗВАРОТ ПРЭЗЫДЭНТА БНР
### да Беларускага Народу

Да вас, дарагія сёстры й браты шырокіх палеткаў Беларусі, што цярпіцё чужацкую няволю фізычнага й маральнага тэрору,

да вас, мучанікі вязьніцаў, катаргаў-канцлягераў,

да вас, гэроі-змагары, вольныя духам лясныя арлы,

да вас, расьцярушаныя па цэлым сьвеце на выгнаньні, —

да Цябе, увесь шматпакутны, ды нязломны

Беларускі Народзе —

зварачаюся сяньня з найгарачэйшым братнім прывітаньнем і шлю вам усім свае найсардэчнейшыя пажаданьні вытрываласьці й гарту ў змаганьні.

У сяньняшні дзень найвялікшага нашага нацыянальнага сьвята злучэм усе свае душы й сэрцы, успомніма ахвяры мучанікаў за вялікі наш сьвяты ідэал ды памолімся горача Богу, каб Найвялікшы й Найсправядлівейшы ў небе скараціў нашыя цярпеньні, каб няўпынныя дагэтуль сьлёзы міліёнаў нашых матак, сестраў, слёзы, што разьдзіраюць горкім болем іхныя грудзі, сталіся сяньня сьлязьмі ўмільнай радасьці ў моцнай веры й надзеі на найхутчэйшае спатканьне нас усіх у Вольнай Беларусі!

Успомніма ў сяньняшні дзень вешчыя словы нашых песьняроў, пракракаў-будзіцеляў, якія натхнілі нам вялікую сілу духу да змаганьня за вызваленьне зь цяжкое духовае й фізычнае няволі.

Успомніма запаветы нашых вялікіх правадыроў, ад Кастуся Каліноўскага да Пётры Крачэўскага й Васіля Захаркі, якіх Найвышэйшая Сіла абдарыла была сьветлым палітычным розумам Боскага Провіду.

Возьмем глыбака да сэрца іхную навуку, іхнае даzнаньне і, узмацаваўшыся на сілах, цьвёрда й нязломна пакрочым наперад іхным шляхам да канчальнае нашае перамогі!

Сьціснем шчыльней нашыя рады навокал нашага крышталька чыстага, нашага сьвятога штандару БНР, каб рукі варожыя не дапялі яго ў нас вырваць!

Дарагія сёстры, браты!

У сяньняшні дзень трыццаць першых угодкаў абвешчаньня на ўвесь сьвет волі Беларускага Народу горача заклікаю вас усіх быць і далей непахіснымі змагарамі за ўсё тое сьвятое, што з такім фанатызмам баранілі нашыя папярэднікі цягам гэных апошніх трыццаць і аднаго году.

Заклікаю вас усіх да зьвялікшаньня актыўнасьці й напружанасьці ў змаганьні з усякімі варожымі наскокамі на нас розных чорных сілаў, якія, вычуваючы набліжэньне дня нашага вызваленьня, павялі на нас атаку рознымі хітрымі падступамі.

Заклікаю вас усіх быць і надалей вялікімі духам сынамі й дачкамі Беларусі, забыцца на ўсе дробныя нялады, міжсобныя непаразуменьні, а ськіваваць увесь свой гнеў на нашага лютага ворага, што трымае ў пакуце й муках наш народ.

Дарагія сёстры, браты!

Памятайма й выканайма годна свае абавязкі, сваю місію перад Бацькаўшчынай і Богам, ускладзеную доляй на нашае пакаленьне!

Заклікаю вас яшчэ горача да дружнай братэрскай згоды, да упорыстай цьвёрдай вытрывалай працы, да ахвярнасьці ў змаганьні за вольную Беларускую Народную Рэспубліку.

Змагайся як мага і станься вольным духова й фізычна, Вялікі Беларускі Народзе!

Жыве Беларусь!

Жыве БНР!

Мікола Абрамчык.

---

## БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ!

Ізноў надышоў наш вялікі дзень, дзень 25-га Сакавіка. Увесь беларускі народ гэты дзень, як гадавіну незалежнасьці свае Бацькаўшчыны, сьвяткуе і там у зьняволенай Радзіме і концлягерах і турмах НКВД, і мы тут на эміграцыі. Там на Бацькаўшчыне, пад тэрорам ненавіснага акупанта, народ наш ня будзе мець магчымасьці выявіць сваю радасьць з нагоды 31-ай гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Рэспублікі. Усходні імпэрыялізм, на сягоньняшні дзень у форме бальшавізму, мячом перакрэсьліў незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, сілай накінуўшы ёй фікцыю незалежнасьці — Беларускую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку. Таму беларускі народ будзе сьвяткаваць гэты дзень там адно ў сваей душы, хаваючы глыбока крыўду за патаптаньне грубой фізычнай сілай Акту 25-га Сакавіка, за нячуваны зьдзек, які ён церпіць сягоньня.

Мы тут на эміграцыі знаходзімся настолькі ў шчасьлівейшым палажэньні, што можам адкрыта гэты дзень адсьвяткаваць, аднак-жа радасьці ня будзе і ў нас. Бо ці-ж можам мы весяліцца, калі народ наш у няволі? Не, мы ў гэты дзень павінны душою злучыцца з нашаю Радзімаю і адчуць тое цярпеньне, якое пераносіць яна. У гэты дзень мы павінны ўсьведаміць сабе тую Гальгофу, якую прайшоў ужо наш народ ад памятнага дня — 25-га Сакавіка 1918 году па сяньняшні дзень. Успомнім аб тых, якія аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі, аб тых нашых братох і сёстрах, якія памерлі ў страшных муках у канцэнтрацыйных бальшавіцкіх лягерах, і аб тых, якія сяньня церпяць на Калыме, Варкуце і ў іншых шматлікіх месцах пакуты — сапраўдным пекле на зямлі.

Беларускія вайскоўцы!

Няхай у гэты дзень кажны з нас зробіць рахунак сумленьня, усьведаміць сабе, ці ён чэсна выканаў свой жаўнерскі абавязак у дачыненьні да свае Бацькаўшчыны. Ці ён ня мае доўгу перад сваім народам, які ён мусіць раней, ці пазьней заплаціць? Сьвяткуючы гэты вялікі дзень няхай кажны з нас зразумее, што мець неаплачаныя даўгі перад Бацькаўшчынай — нельга. Мы не павінны забывацца, што тады толькі мы іх сплацім, калі вернемся на Бацькаўшчыну, як вызвольнікі нашага народу із зброяй у руках, або аддамо сваё жыцьцё за справу ягонага вызваленьня.

Няхай жыве 25 Сакавік, няхай жыве збройнае змаганьне за вызваленьне Беларускай Народнай Рэспублікі!

Старшыня Галоўнага Ўраду
Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў.

---

## ТЭСТАМЭНТ ПРЭЗЫДЭНТА БНР
### ВАСІЛЯ ЗАХАР І

Ніжэй друкуем даслоўны тэкст тэстамэнту аб перадачы мандату Прэзыдэнта БНР (Старшыні Рады БНР) інж. Мікалаю Абрамчыку (глядзі артыкул: «Незалежніцкі Шлях БНР»):

«Старшыня Рады
Беларускай Народнай
Рэспублікі
6.III.1943
№ 546
Прага.

Іх Міласьці
гр. інж. Міколе Абрамчыку
і гр. Ларысе Гэніюш.

Будучы доўга і моцна хворым, што можа прынесьці хутчэй кепскі, чым добры канец майму жыцьцю, я гэтым перадаю Вам, пане Інжынер, становішча Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэтым-жа самым назначаю на становішча Сакратара Прэзыдыюму Рады БНР Ларысу Антонаўну Гэніюш.

Усе абавязкі, ляжачыя раней на мне, згодна з пастановай пленуму Рады БНР, ускладаюцца цяпер на Вас, пане Інжынер, і на грамадзянку Гэніюш.

Прашу выконваць іх у духу беларускай дзяржаўнай незалежнасьці і яе непадзельнасьці.

Знаючы Вас, як патрыёта беларускага народу, маю надзею, што Вы цьвёрда пойдзеце тым шляхам, які ўказаны актам 25-га сакавіка 1918 г.

Само сабой разумеецца, што ўсе архівы Рады БНР і дакумэнты пераходзяць таксама да Вас.

В. Захарка.
Старшыня Рады БНР».

(Пячатка Рады БНР).

---

«Далейшая праца, як нашая заграніцай, так і ўсяго Беларускага Народу на Бацькаўшчыне павінна скінуць панаваньне чужынцаў і даць месца Беларускаму Народу на ўсей этнаграфічнай Беларусі, дзе ён становіць адменную большасьць».

Старшыня Рады БНР.
П.. Крачэўскі.

---

«Барацьба ўсімі сродкамі павінна вясьціся бязупынна да тае пары, пакуль Беларусь ня будзе пазбаўленая ад чужога панаваньня і пакуль у ёй, як незалежнай дзяржаве, не запануе сам Беларускі Народ».

В. Захарка.
Старшыня Рады БНР.

---

## ЗА ІДЭЮ 25 САКАВІКА

Ужо трыццаць першы раз Беларускі Народ адзначае гадавіну вялікага гістарычнага Акту 25 сакавіка 1918 г., на моцы якога Беларусь была абвешчаная вольным і незалежным гаспадарствам у межах расьсяленьня й лічбовае перавагі Беларускага Народу.

Гэтая падзея была найвялікшым пераломным мамэнтам у жыцьці Беларускага Народу й запачаткавала сабою новы пэрыяд у гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Да 25 сакавіка беларускі рух ня меў яшчэ перад сабою выразна азначаных палітычных пэрспэктываў, ня быў яшчэ ідэалягічна спрэцызаваным. Беларускі нацыянальна-палітычны актыў, што кіраваў гэтым рухам, блудзіў і губляўся яшчэ ў розных фэдэральных, аўтаномных, нярэдка толькі ў культурна-аўтаномных канцэпцыях, не асьмельваючыся нат і думаць аб поўным разрыве з Расеяй і аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Пэрыяд дасакавіковы можам тады сьмела назваць пэрыядам шуканьня сталай і агульнавызнаванай нацыянальна-гаспадарстваўскай канцэпцыі, пэрыядам крышталізаваньня беларускай нацыянальнай ідэалёгіі, на якой-бы гэтая канцэпцыя абапіралася. Што гэтыя шуканьні йшлі па правільнай лініі народных патрэбаў і адказвалі імкненьням Беларускага Народу, даводзіць факт, што яны прывялі да поўнае й бліскучае перамогі незалежніцкай ідэі, выражанай у Акце 25 сакавіка.

Вось чаму Акт 25 сакавіка 1918 г. распачынае ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху новы гістарычны пэрыяд — пэрыяд незалежніцкі. Ад гэтага часу беларуская палітычная думка разьвіваецца ўжо ў вадным, выразна спрэцызаваным незалежніцкім кірунку, стаўляючы сваей канчальнай мэтай, сваім найвялікшым ідэалам — вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.

Акт 25 сакавіка ня быў прыпадковым зьявішчам, абумоўленым спрыяльнымі абставінамі часу, ня быў справаю толькі патрыятычнае інтэлігенцыі ці ейнае найбольш энтузіястычнае групы, але ідэі гэтага вялікага Акту былі арганічнаю часткаю агульнанародных імкненьняў, агульнанароднае волі.

Вось чаму ідэя 25 сакавіка была спантанічна падхопленая ўсім Народам, які яе энтузіястычна прыняў і за ейнае ажыцьцяўленьне кінаўся ў няроўнае змаганьне. Славутае Слуцкае Паўстаньне й цэлы рад іншых збройных чынаў супраць акупантаў праходзілі пад сьцягам БНР, разгортваліся ў імя незалежніцкае ідэі. За гэтую ідэю найлепшыя сыны Беларускага Народу адважна йшлі на сьмерць, у турмы, на мукі ў ссылках далёкага Сібіру ці палярнай Поўначы, каб сваей крывёю і жыцьцём сваім задакумэнтаваць веліч, сьвятасьць і несьмяротнасьць гэтае ідэі. Ідэя 25 сакавіка сталася агульнанароднай ідэяй і на столькі папулярнай і неадлучнай у масах, што ня было й няма сяньня ніводнай беларускай палітычнай партыі ці арганізацыі, ніводнага нацыянальнага пачынаньня, дзе-бы гэтая ідэя, як найвялікшая канчальная мэта, ня была вызнаваная і акцэнтаваная. Навет заццятыя ворагі незалежнасьці Беларусі й усякія чужацкія экспазытуры сярод Беларускага Народу змушаныя навонкі маніфэставаць ідэю 25 сакавіка і маскаваць ёю свае заправудныя праступныя намеры, бо ў праціўным выпадку ня мелі-б яны найменшай папулярнасьці ані ўплываў.

Беларуская незалежніцкая ідэя, выражаная ў Акце 25 сакавіка, як і ўсякая іншая творчая й жывая ідэя, з году ў год мацнее ў сэрцах Беларускага Народу й становіцца канкрэтным зьместам усяе беларускае палітычнае, грамадзкае й культурнае дзейнасьці. Яна з кажным годам здабывае сабе што раз больш фанатычна адданых ёй вызнавальнікаў, павялічае што раз большыя рады няўтомных замагароў за ейнае ажыцьцяўленьне. Яна й сяньня зьяўляецца жывой і творчай у Беларускім Народзе. Яна натхняе шырокія масы Беларускага Народу на Бацькаўшчыне да няўпыннага змаганьня супраць маскоўска-бальшавіцкага акупанта за сваю волю, за сваё шчасьце, за сваю лепшую будучыню. Яна ўзмацняе ягоную веру ў перамогу, гартуе ягоную волю ў змаганьні, дае яму сілу вытрываласьці, вядзе яго да вялікіх гераічных чынаў.

У гэтым найлепшая зарука таго, што Народ, узброены вялікай вызвольна-незалежніцкай ідэяй, не загіне, ня гледзячы на тое, якой цяжкой ягоная няволя ня была-б, але скрышыць усе перашкоды на сваім цярністым шляху й дойдзе да поўнае перамогі. У гэта мы моцна верым, у гэта верыць увесь шматмільённы Беларускі Народ!

---

«Мы не павінны ані на часіну забывацца аб тым, што нашая нацыянальна-вызвольная ідэя, за якую змагаюцца ўжо цэлыя пакаленьні Беларускага Народу, зьяўляецца для нас сьвятой ідэяй. Дзеля гэтага патрэбна ўсяцэла гэтай ідэі аддацца, для яе жыць, а калі трэба, дык і памерці».

М. Абрамчык.
Прэзыдэнт БНР.

